*Былая вотчына Сапегаў, свабодны, горды край!*
*Міхась Райчонак*

№5 Травень 2000

# Бацькаўшчына

Бюлетэнь культурна-асьветніцкага цэнтру імя Язэпа Драздовіча і Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны

*Беларусь* *Радзіма* *Незалежнасьць*

## На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!!

**Гэтым заклікам завяршаецца вядомая драма Янкі Купалы, напісаная ў далёкім 1913 годзе. Але і сёньня гэтыя словы генія беларускага адраджэньня гучаць як набат, бо Бацькаўшчына наша ўсё больш нагадвае раскіданае гняздо. Гаспадарка краіны ў заняпадзе. Жыццё беларусаў увесь час пагаршаецца. ігнаруюцца, а то і вынішчаюцца нацыянальныя сімвалы. Зьневажаецца родная мова. Як непатрэбныя выкідваюцц за мяжу маладыя таленты і замест вырашэньня складаных і балючых праблем станаўленьня дзяржаўнасці з высокіх афіцыйных трыбун нам прапануюць гульні ў «аб'яднанне», быццам. згубіўшы самастойнасьць, мы пазбавімся ад усіх нягод.**

**Большасьць свядомых грамадзян Беларусі разумее, што гэта– чарговы нахабны падман, хітрая спроба ўцячы ад адказнасьці за правальную эканамічную палітыку. Але такія мы, беларусы, людзі панурыўшы галовы, маўчым, зацята трываем, усё тужэй зацягваючы папружкі... А можа, хопіць ужо? Бо надыходзіць час выбару: альбо мы пачнём усур'ёз абсталёўваць свой беларускі дом, альбо пакорліва пабрыдзём па сьвеце бяздомнымі жабракамі. Час брацца за розум. Час пачуць горкія прарочыя Купалавы словы: "Ганьба таму, хто, вочы на ўсё заплюшчыўшы, будзе ісьці ўцертай здавён сьцежкаю няпраўды, думаючы, што інакш быць ніколі не можа, і што не ў яго волі зьмяніць стары парадак бессумленнага жыцьця.»**

**Гэта няпраўда, што ад нас нічога не залежыць. Менавіта ад нас, ад усіх, нас залежыць будучыня Беларусі. І кожны патрыёт Айчыны – вялікая сіла, хай гэта будзе рабочы ці прадпрымальнік, селянін ці вайсковец, настаўнік ці банкір, урач ці міліцыянт, студэнт ці пенсіянер. Нам толькі трэба сабрацца разам, адкінуўшы спалох, звады, абыякавасьць і ляноту.**

**Дзеля гэтага і збіраецца Усебеларускі з'езд. Ён не скіраваны супраць кагосьці альбо чагосьці. Ён – за Беларусь, вольную і шчаслівую, за нашу роўнасць сярод народаў свету, за нашу чалавечую і нацыянальную годнасьць, за дэмакратычнае развіцьцё грамадства, за светлае заўтра дзяцей і ўнукаў...**

**Нядаўна адбылося пасяджэньне аргкамітэта па падрыхтоўцы з'езда. У ім удзельнічалі пасланцы усіх абласцей краіны, прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый і аб'яднаньняў, прафсаюзаў, вядомыя і аўтарытэтныя не толькі на Радзіме людзі. Яны прынялі рашэньне правесці Усебеларускі з'езд у два этапы. На першым – у другой палове чэрвеня – мяркуецца прыняць Акт (ці Маніфест) Незалежнасьці, а на другім (восеньскім) – больш дэталёва раскрыць палажэньні Акта і вызначыць задачы для арганізацыйнага іх ажыцьцяўленьня. Акрэслены і механізм дэлегаваньня на з'езд. Ён прадугледжвае і прадстаўніцтва арганізацый, што падтрымалі ідэю Усебеларускага з'езда (а іх зарэгістравана ў сакратарыяце аргкамітэта больш за 250), і выбары на сходах і мітынгах грамадзян ва ўсіх раёнах Беларусі.**

**Ёсць усе падставы сьцвярджаць, што ў тых, хто прыедзе ў Минск на з'езд, будзе поўнае права гаварыць ад імя беларусаў, зьвяртацца да міжнароднай супольнасці, да блізкіх і далёкіх суседзяў і да афіцыйных уладаў краіны з патрабаваньнем паважаць волю шматпакутнага і працавітага народа за захаваньне і развіцьцё сваей нацыянальнай дзяржавы.**

**Бог даў нам нашу мілую, азёрную і лясную зямлю ў цэнтры Еўропы. Нашы продкі сваім розумам і мужнасьцю стварылі на ёй шматвяковую, самабытную гісторыю. Мы ніколі і нікому не пагражалі ні мячом, ні агнём. Мы цярпліва пераносілі чужацкія набегі і крывавыя войны. І мы не хочам быць часткай чужой, хай сабе і магутнай, дзяржавы, не хочам жыць у прыбудове да суседскага, хай сабе і шыкоўнага дома. Мы хочам мець уласную, асобную краіну, сваю дагледжаную і ўтульную хату, у якой пачуваць сябе гаспадарамі, а не малодшымі сваякамі. Мы гатовы выслухаць парады і прыняць дапамогу сяброў, але рашуча адкідаем чые б то ні былі прэтэнзіі на дыктат і навязаны сілаю і хлуснёй парадак.**

**Мы шчыра хочам сябраваць з братняй Расіяй, супрацоўнічаць з ёю ва ўсіх галінах жыцьця, але не як яе «рэгіён», а як самастойная, асобная дзяржава. Не было, няма і не будзе ў гісторыі адной дзяржавы з двума суверэнітэтамі, з двума пасламі ў замежных сталіцах, з дзвюма арміямі і г.д. Пры стварэньні адзінай дзяржавы з дзвюх краін (як бы яе ні называлі спрытныя палітыканы і дыпламаты) як мінімум адна з іх непазьбежна павінна адмовіцца ад свайго суверэнітэту. Наіўна і смешна разлічваць, што на такое пойдзе вялікая Расія. Значыць, сваю самастойнасць павінна страціць наша родная Рэспубліка Беларусь...**

**Мы не павінны «здаць» сваю дзяржаву. Нас, упэўненых у сваёй пазіцыі, шмат, і мы пераканаемся ў гэтым, калі сустрэнемся на Усебеларускім з'ездзе. На гэтым Вялікім Сходзе мы заявім на ўвесь свет, што ні дома, ні ў блізкім і далёкім замежжы нікому не дамо гандляваць Бацькаўшчынай. Чым больш будзе нас, тым гучнейшы будзе наш голас, тым хутчэй да нас прыслухаюцца.**

**Замах на самастойнасьць Рэспублікі Беларусь – грубейшае парушэньне Канстытуцыі краіны, ігнараванне самых сьвятых правоў грамадзян. Спробы ўладаў, чыя легітымнасць выклікае ў свеце вялікія сумненьні, падпісаць пагадненьні аб інкарпарацыі ў новую імперыю ставіць пытаньне над далейшым дзяржаўным лёсам аднаго са старажытнейшых славянскіх народаў. Гэтага нельга дапусьціць.**

**Акт Незалежнасьці, які будзе прыняты Усебеларускім з'ездам, яшчэ раз абвесьціць боскае права нашага народа мець сваю дзяржаву. Гэта галоўная мэта і задача з'езда.**

**Усебеларускі з'езд – народная ініцыятыва. Таму аргкамітэт чакае ад усіх грамадзян рэспублікі прапаноў наконт рашэньняў, якія павінны быць прыняты на ім...**

*Генадзь БУРАЎКІН, сустаршыня аргкамітэта па падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда. Кантактныя каардынаты аргкамітэта Усебеларускага з'езда: 220065, Минск, а/с 297, тэл. 223-65-29.*

Прэс-рэліз Сакрытарыята Усебеларускага З`езда і праект «АКТУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ» на 2-й старонцы.

## Прэс-рэліз
## Сакратарыята Усебеларускага З'езда

*1 чэрвеня 2000 года Сустаршыні Аргкамітэта Усебеларускага З'езда прынялі рашэнне вынесці на ўсенароднае абмеркаванне праект Акта Незалежнасці Беларусі і звярнуцца да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай апублікаваць гэты дакумент. Дзеля яго ўдасканалення зацікаўленыя асобы і арганізацыі маюць магчымасць даслаць на адрас Сакратарыята свае прапановы наконт змен і дапаўненняў. Усе яны будуць разгледжаны і ўлічаны пры канчатковай падрыхтоўцы Акта Неза-лежнасці Беларусі.*

***Праект***

## АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

— усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;

— напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

— грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

***ЗАЯЎЛЯЕМ:***

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнас-ці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаў-ным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэн-ства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падс-таве правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць на-цыянальнай дзяржаўнасці павінны праследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз ра-шэнні вышэйшых дзяржаўных асоб і органаў і нават праз рэфе-рэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад паг-розу. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадс-таўнікамі ўлад, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў боль-шасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы – за добрыя, раўнапраўныя і узаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіё-нам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

***СВЕДЧЫМ***

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

***АБВЯШЧАЕМ***

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

***ПРЫЗНАЁМ***

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

***ЗАКЛІКАЕМ***

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасці.**

**Жыве Беларусь!**

Прынята Усебеларускім З'ездам " " ———— 2000 года ў Мінску.

## Адродзім беларускую мову і вернем нашыя адвечныя сімвалы!

***(Зварот Рады ТБМ да беларускае грамадскасьці)***

**Дарагія суайчыньнікі!**

**14 траўня 2000 года спаўняецца 5 гадоў з часу правядзеньня першага прэзідэнцкага рэферэндуму. Рэферэндум, што пярэчыў тагачаснаму заканадаўству Беларусі, быў гвалтоўна навязаны Вярхоўнаму Савету пасьля таго, як у зале паседжаньняў зьбілі дэпутатаў ад апазіцыі, якія абвясьцілі галадоўку, пратэстуючы супраць парушэньня Канстытуцыі нашай дзяржавы. Фактычна гэты рэферэндум быў спланаваны імперскімі сіламі Расеі, ажыцьцяўляўся з іх непасрэднай дапамогай і меў на мэце анэксію Беларусі. Падчас рэферэндуму мелі месца шматлікія парушэньні, асабліва ў вясковай мясцовасьці, а выява новага гербу пярэчыла свайму першапачатковаму варыянту, які быў у свой час зацьверджаны Вярхоўным Саветам. І нават у такіх умовах за зьмену дзяржаўнай сімволікі прагаласавала менш за палову насельніцтва Беларусі (каля 49% грамадзянаў), а за наданьне аднолькавых правоў беларускай і рускай мовам – 56% ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў. І хоць рэфэрэндум не меў заканадаўчай моцы, аднак, у парушэньне заканадаўства дзяржаўная сімволіка была дэманстратыўна зьмененая, а беларуская мова па сутнасьці страціла функцыю дзяржаўнай. На сёньня ёю прынцыпова не карыстаюцца кіраўнік дзяржавы з сваім бліжэйшым атачэньнем і іншыя чыноўнікі па ўсёй Беларусі. Мэтанакіравана згортваецца прастора беларускамоўнай адукацыі ўсіх узроўняў, адсутнічаюць беларускамоўныя ВНУ, беларуская мова не толькі не выкарыстоўваецца ў справаводстве ў міністэствах і іншых дзяржаўных установах, але і прынцыпова не ўжываецца ні ў якіх іншых стасунках у судах, пракуратуры, мытным камітэце, КДБ, Міністэрствах абароны, унутраных спраў, сувязі... Гэты сумны пералік можна цягнуць бясконца...Аднак вынікі апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, усё ж яскрава засведчылі, што, нягледзячы на моўную дыскрымінацыю беларусаў, амаль 8 мільёнаў жыхароў краіны прыхільна ставяцца да беларускай мовы і лічаць яе сваёй роднай, а 3 мільёна 700 тысячаў з іх штодня размаўляюць менавіта па-беларуску. Таму ТБМ звяртаецца з заклікам да ўсіх кіраўнікоў грамадскіх арганізацыяў, прафсаюзаў, палітычных партыяў і рухаў арганізаваць 13 і 14 траўня 2000 года па ўсёй Беларусі пікеты і мітынгі з патрабаваннем надаць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай і вярнуць беларускаму народу яго спрадвечныя гістарычныя сімвалы.**

*Рэспубліканская Рада ТБМ*

16 красавіка 2000 г.Менск

# Заява Сакратарыята ТБМ аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў войску

**10 гадоў мінула з моманту прыняцьця Закона аб мовах. Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай, але беларуская мова цалкам ігнаруецца ў беларускім войску. Вайсковая прысяга на вернасьць Радзіме прымаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы. У беларускім войску адсутнічаюць статуты на роднай мове. Вайсковая падрыхтоўка і ўся выхаваўчая праца вядзецца выключна паруску, у беларускім войску не гучыць беларуская вайсковая песьня. Адзіная вайсковая газета "Во славу Родины" таксама рускамоўная. Паколькі большыня нашых хлопцаў набіраецца ў войска зь невялікіх гарадоў і вёсак, дзе ў паўсядзённым жыцьці дамінуе беларуская мова, лічым непрымальным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.**

**У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы патрабуе ад Урада Рэспублікі Беларусь зрабіць наступнае:**

***- Стварыць у кожнй вайсковай частцы беларускамоўныя батальёны, для кіраваньня імі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай моваі у аб'ёме, неабходным для правядзеньня выхаваўчай працы і вайсковай падрыхтоўкі.***

***- Перакласьці на беларускцую мову вайсковыя статуты.***

***- Забясьпечыць усе вайсковыя часткі тэкстам прысягі на беларускай мове, і ўрачыстасьці з нагоды прыняцьця навабранцамі прысягі на вернасьць Радзіме праводзіць па мове тытульнай нацыі нашай краіны.***

***- Узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу.***

***- Надаць газеце "Во славу Родины" статус дзьвюхмоўнай і прадугледзіць, каб не менш 50% матэр'ялаў друкавалася пабеларуску.***

Менск, 4 траўня 2000г.

# Сёлета жыхароў Беларусі стане менш за 10 мільёнаў

*Тэндэнцыі*

***Натуральны спад насельніцтва назіраецца ў краіне з 1994 года. З апошніх шэсьць гадоў колькасьць жыхароў Беларусі скарацілася прыкладна на 300 тысяч.***

Гэта першае вядомае за ўсю гісторыю Беларусі такое працяглае зьніжэньне колькасьці насельніцтва ў выніку натуральнага спаду. Асноўныя прычыны – рост сьмяротнасьці і спад нараджальнасьці. Так, калі ў 1990 годзе каэфіцыенты нараджальнасьці на 1000 жыхароў складала каля 14 чалавек, то ў 1999-м – 9,3; каэфіцыент сьмяротнасьці – адпаведна 10,7 і 14,1.

Раней колькасьць жыхароў краіны зьмяншалася пераважна ў выніку эпідэмій (напрыклад, чумы ў 1563-66 гадах) і войнаў. Так, у вайне 1654-1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінулі 53 працэнты насельніцтва Беларусі. Паўночная вайна 1700-1721 гадоў адабрала жыцьці яшчэ трэці жыхароў краю. Падчас першай сусьветнай вайны былі забіты і памерлі 1 мільён 200 тысяч беларусаў. Сур'ёзныя страты панесла рэспубліка і ў сталінскі перыяд. Так, калі ў 1927-32 гадах колькасьць жыхароў павялічылася на 720 тысяч, то за 1933-38 гады – толькі на 220 тысяч.

Згодна зь гістарычнымі зьвесткамі, колькасьць у 10 мільёнаў чалавек Беларусь дасягала двойчы – у 1939 і 1986 гадах. У 1939-м дзякуючы далучэньню Заходняй Беларусі да БССР насельніцтва рэспублікі павялічылася да 11 мільёнаў чалавек. Але ў 1939-40 урад СССР предаў Віленшчыну Літве, у выніку чаго колькасьць жыхароў Беларусі зьменшылася да 10,5 мільёна. Потым грымнула Вялікая Ай-чынная вайна, якая пахавала каля трох мільёнаў беларусаў і выгнала з родных мясьцінаў яшчэ адзін мільён. У 1945 годзе насельніцтва рэспублікі складала 6 мільёнаў 265 тысяч.

Хуткаму яго павелічэньню садзейнічала рээвакуацыя грамадзян, якія выехалі зь Беларусі ў гады вайны. У выніку ў 1950 годзе колькасьць жыхароў перавысіла 7700 тысяч. Чарговымі фактарамі, што выклікалі зьмяншэньне жыжароў Беларусі, сталі передача Польшчы Беласточчыны і трох раёнаў Брэстчыны (чаму спадарожнічаў абмен насельніцтвам), а таксама працоўная міграцыя ў Сібір і Казахстан. З гэтай прычыны ў 1951-52 гадах колькасьць жыхароў зьменшылася на 88 тысяч, у1954-м на 28 тысяч. З таго часу распачаўся працяглы рост насельніцтва рэспублікі, і мяжу ў 8 мільёнаў чалавек беларусы перайшлі ў 1958 годзе, 9 мільёнаў – у 1970-м, 10 мільёнаў – у 1986-м.

З 1994 колькасьць жыхароў краіны штогод зьмяншаецца на 20-40 тысяч. Праўда, любая статыстыка не зьяўляецца бязгрэшнай. Так, згодна з афіцыйнымі данымі, на 1 студзеня 1999 года насельніцтва Беларусі складала 10179,5 тысяч чалавек. Але перапіс, праведзены летась у лютым, назваў лічбу на 130 тысяч меншую.

За 1999 год натуральнае зьмяншэньне насельніцтва Беларусі склала 31,1 тысяч чалавек. Калі такія тэмпы захаваюцца і сёлета, то, паводле прагнозу інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, да новага, 2001 года беларусаў застанецца прыкладна 9 мільёнаў 990 тысяч чалавек. Фатальным, хутчэй за ўсё, стане жнівень – менавіта ў гэтым месяцы чакаецца зьмяншэньне колькасьці насельніцтва ніжэй за адзнаку 10 мільёнаў.

*Алесь Ліпай, БелаПАН*

**Шаноўныя чытачы «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**
Свае прапановы і заўвагі па зьместу і форме нашага бюлетэню дасылайце па адрасу, які Вы знойдзеце на апошняй старонцы гэтага выданьня.

# Хто намі кіруе?

*Акупацыя?*

Прэм'ер-міністр Беларусі У.Ярмошын – выхадзец з Расеі.
Першы віцэ-прэм'ер Беларусі Кабякоў – выхадзец з Расеі.
Віцэ-прэм'ер, міністр замежных спраў Беларусі У.Латыпаў – выхадзец з Расеі.
Віцэ-прэм'ер па культуры і адукацыі, палкоўнік Замяталін – выхадзец з Расеі.
Міністр абароны Чуйкоў – маскоўскі генерал.
Міністр адукацыі – выхадзец з Расеі.
Намесьнік старшыні КДБ Ерын – маскоўскі генерал.
Міністр юстыцыі Варанцоў – выхадзец з Расеі.
Галоўнакамандуючы ўнутранымі войскамі Беларусі Жадобін – маскоўскі генерал.

# Экзамены на школьным полі.

Педагогі старэйшай ў Шаркаўшчынскім раёне Лужкоўскай СШ былі рады, калі з 38 цяперашніх выпускнікоў 9-х класаў вырашылі застацца вучыцца ў школе. Пасля экзаменаў у іх і іншых старшакласнікаў, дарэчы, пры[м]е залік на веды і працалюбства асабісты вучэбна-вопытны ўчастак. За працу на ім у леташнім годзе дзеці атрымалі 255 млн.рублёў заработнай платы, забясьпечылі прадуктамі сталоўку, дзе харчуюцца 332 школьнікі, а 18 - абсалютна бясплатна.Частку зярна і гародніны удалося прадаць на старану, атрымаць амаль млрд. рублёў прыбытка. Уклон на працоўнае выхаваньне ў сваю чаргу памог юнакам хутчэй усьвядоміць сябе. Апрача таго, што за апошнія 6 год у школе не было сур'ёзных праваПарушэньняў, дзеці стараюцца і на ўроках. З 35 навучэнцаў выпуска 1999 года двое ўзнагароджаныя залатымі медалямі, яшчэ 8 працягнулі навучаньне ў вузах, а 12 – у тэхнікумах.

*А.Э.*

# Бясплатны «канцэрт»

На прыканцы красавіка, пасьля праведзеных некалькі месяцаў у ЗША, вярнуўся на радзіму вядомы наваполацкі сьпявак Ален. Безумоўна, як часта ў такіх выпадках бывае, час у яго зараз заняты шматлікімі сустрэчамі з сябрамі і як заўсёды, рэалізацыяй пэўных творчых задумаў. Натуральна, шмат каму хочацца сустрэцца са славутасьцю, каб распытаць у чарговы раз: "Ну як там, у той Амэрыцы?" Але не толькі шматлікімі сустрэчамі запомніцца вяртаньне на Бацькаўшчыну.

Нейк травеньскім дзяньком вырашыў спадар Ален абмяняць у адным з абменных пунктаў валюты, што знаходзіцца ў "Доме гандлю", чэсна заробленую ў Амерыцы сапраўдную стодоларавую купюру. Здавалася, чаго б прасьцей? Гэта ж не ў «мянял», што трэба хваляваўца, чым закончыцца такая працэдура абмену. Дык вось, аддаў хлапец свае "амэрыканскія рублі" у вакенца сімпатычнай дзяўчыне і чакае нашу даражэнькую беларускую, з дазволу сказаць, валюту. Але ж чаканых "зайцоў" так і не пабачыў. А дзяўчына з вакенца і кажа яму, што маўляў не падабаца мне твая купюра і хуценька выклікала міліцыю. Ален нават не пасьпеў выразна патлумачыць, што грошы - самыя што ні ёсьць амэрыканскія. Хутка падасьпелі міліцыянты і не доўга думаючы вывелі сьпевака на вуліцу ды адвезьлі ў аддзел міліцыі. І ўсё гэта на вачах шматлікіх знаёмых, бо не трэба тлумачыць нікому, што Алена ведаюць многія ў горадзе, асабліва моладзь. Можна толькі здагадвацца, што падумалі некаторыя ў гэты час.У міліцыі на яго, натуральна, склалі пратакол. Але акт аб канфіскацыі вышэйзгаданай купюры ніхто чамусьці не аформіў. Праз два дні спадару Алену патэлефанавалі зь міліцыі і сказалі, што можна забраць свае грошы, бо, як "высьветлілася", яны аказаліся сапрыўднымі. Ну і, як у нас звычайна бывае, ніхто ў чалавека не папрасіў прабачэньне за нанесены дыскамфорт і згублены час. Так вось родная старонка сустракае сваіх грамадзянаў. Відаць каб не забыліся ў якой дзяржаве яны жывуць.

*Ул.Кунцэвіч*

# «Сакрэтны» стадыён

У горадзе Глыбокае на гарадскім стадыёне ёсць пахаваньні нямецкіх жаўнераў часоў апошняй вайны. Прыблізная колькасьць пахаваных каля 1500 загінуўшых. Выглядае так, што футбольныя матчы чэмпіяната Беларусі 2-ой лігі, а таксама іншыя спартыўныя мерапрыемствы, адбываліся на магілках.

У сярэдзіне траўня 2000г. пачаліся раскопкі нямецкіх вайсковых пахаваньняў сіламі МА РБ (салдаты) Фінансавую дапамогу на аднаўленьне газона павінен аказаць нямецкі бок. Прадстаўнікі нямецкай амбасады неаднаразова наведвалі Глыбокае. Урэшце рэшт у гэтым годзе павінна пачацца рэканструкцыя гарадскога стадыёна.

Аднак месца раскопак адразу стала "сакрэтным " вайсковым аб'ектам. Інакш і не назавеш, бо стаяць шыльды, якія папярэджваюць:"Праход закрыты". Больш таго, калі журналіст Ул.Скрабатун спрабаваў зрабіць некалькі здымкаў месца раскопак, да яго падыйшоў маёр і сказаў:"Вы ведаеце, што гэта - ваенны аб'ект. Фатаграфаваць можна толькі з дазволу начальніка штаба Міністэрства абароны". На што журналіст заўважыў: "Тут няма ні танкаў ні бронетранспарцёраў. Які гэта ваенны аб'ект?"

-Не мае значэньня! Трэба засьвяціць плёнку.

Паказанае журналісцкае пасьведчаньне і тлумачэньні, што ён аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Глыбокага, сталіся не пераканаўчымі для афіцэра.

-Можа ваша фатаграфія некуды пойдзе пад спецыфічным подпісам!..

Плёнка была засьвечана.

Самае цікавае, што прадстаўнікі NATO, гэта значыць, немцы, якія наведваюць месца раскопак, могуць вольна фатаграфаваць, што заўгодна, і для іх гэта не "сакрэтны" вайсковы аб'ект. Для нашых – трэба дазвол ледзьве не ад прэзідэнта.

Між іншым, менавіта Ул.Скрабатун тры гады таму падняў гэтую тэму ў друку на прадмет усталявання кантактаў з нямецкай амбасадай па праблеме нямецкіх пахаваньняў у Глыбокім, бо ўсё ж ганяць мячык на магілках амаральна, хоць гэта і былі акупанты. Як кажуць:"За што бароўся, на тое і напароўся".

*С.У.*

# Жыцьцё калгаснае

Нялёгкую ношу дырэктара саўгаса "Дзісенскі" Мёрскага раёна ўдалося ўгаварыць уладам узяць на сябе ўраджэнцы тутэйшых мясцін Раісу Альхімовіч. Ёй, выпускніцы Віцебскай ветакадэміі і аддаўшай 20 гадоў жыцьця працы на зямлі, больш другіх баліць, калі бачыць, як цяжка жывецца землякам у адстаючай гаспадарцы. Дарэчы, у выпадку чаго будзе маці дваіх дзетак з кім падзяліцца набалелым. Да гэтай пары на Мёршчыне даволі пасьпяхова вяла справы ў калгасе імя Цітова адзіная жанчына-старшыня Марыя Сцяпанава. Дзякуючы ёй гэта гаспадарка яшчэ трымаецца, пастаянна ў ліку лепшых. Удалося зберагчы і сьвінакомплекс, за што абласное начальства заахвоціла гаспадарку службовай "Волгай". Затое дрэнныя справы ў 16 гаспадарках, з стратамі спрацаваўшымі ў 1-м квартале. Вельмі нізкая засталася зарплата ў тутэйшых 4238 калгаснікаў, састаўляючая ў сярэднім 14238 рублёў і ня выплачаная ў многіх месцах за люты- сакавік.

*Ф.С.*



**Бацькаўшчына**

Бюлетэнь культурна-асьветніцкага цэнтру імя Язэпа Драздовіча і Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Рэдактар: **Ада Райчонак**
Камп'утарны набор: **Уладзімір Гацкі**, **Уладзімір Кунцэвіч**
Дызайн: **Уладзімір Гацкі**

Зьвярстана і надрукавана пры дапамозе **Віцебскага Аддзяленьня «Фонда імя Льва Сапегі»**
210015, г. Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17.

Наклад: 100 паасобнікаў

Распаўсюджваецца на правах унутраннага карыстання

Адрас для лістоў:
**Віцебская вобласць, Шаркаўшчынскі раён, вёска Германавічы,**
**Адзе Райчонак**